№ 57 (3798)
23 ліпеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Юнаку, што збіў урача-сірыйца «за ўсмешку», пагражае да 2 гадоў пазбаўлення волі

Інцыдэнт меў месца 6 ліпеня ў электрычцы Орша—Мінск. Адзін з удзельнікаў шумнай кампаніі збіў доктара-сірыйца, бо яму не спадабалася, што "той пасміхаецца".

**АНОНС**

## *Філасофія Сяргея Антончыка*

***Здаецца, былога дэпутата, сябра фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання Сяргея Антончыка ведаюць усе.***

***У свой час ён нарабіў нямала шуму.***

***Пасля абрання А.Лукашэнкі прэзідэнтам выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета 20 снежня 1994 года з дакладам аб карупцыі ў атачэнні прэзідэнта. Газеты, якія вырашылі яго надрукаваць, выйшлі з "белымі плямамі". Па выніках даклада кіраўнік спраў прэзідэнта Іван Ціцянкоў падаў іск аб абароне гонару і годнасці, які Антончык прайграў, ягоная маёмасць была часткова канфіскавана...***

***Чым цяпер займаецца Сяргей Антончык?***

***Як ён ацэньвае сваю дэпутацкую дзейнасць?***

***І што думае пра Беларусь мінулую і сённяшнюю?***

***Пра гэта — на 6-й старонцы ў чарговым нарысе пад рубрыкай "Гісторыя Беларусі ў асобах".***

# Сёння ў Мінску адкрываецца Шосты з'езд беларусаў свету

Ніл Гілевіч падчас выступлення у 2000 годзе.

Фота photo.bymedia.net

**ЗВАРОТ**

## *І Бог аддзячыць*

***Так, Бог аддзячыць вам, сыны і дочкі Беларусі, хто — дзеля будучыні Бацькаўшчыны, дзеля выратавання яе свабоды і незалежнасці — прыме да душы і сэрца маю выказаную ніжэй просьбу. Сутнасць гэтай маёй просьбы, якую я ўжо выказваў безліч разоў і выказваю зноў — у апошні раз, вось у чым.***

***Дарагія мае людзі! Прывучайце сваіх дзетак — ад самага пачатку іх жыцця, ад матчыных грудзей, ад калыскі — гаварыць і карыстацца роднай беларускай мовай! Карыстацца і ганарыцца, што такую цудоўную, такую прыгожую, выразную, мілагучную мову Бог прыжывіў на зямлі, якая сёння называецца Беларуссю, якая ёсць і будзе ў вяках нашай. Будзе — калі вашы дзеці, унукі і праўнукі будуць шанаваць і любіць сваю адвечна родную беларускую мову.***

***Дык прывучайце ж, дарагія мае, прывучайце! І Бог аддзячыць вам сваёю ласкай. Абавязкова!***

***Ніл ГІЛЕВІЧ,***
***народны паэт Беларусі.***

*2013, ліпень.*

## *Шэсць фігурантаў справы за Плошчу сталі вольныя*

Аляксандр Фядута, Сяргей Вазняк, Андрэй Дзмітрыеў, Віталь Рымашэўскі і Сяргей Марцалеў цяпер вольныя. Для іх скончыліся ўмоўныя тэрміны пазбаўлення волі па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у дзень галасавання на прэзідэнцкіх выбарах 19 снежня 2010 года.

Цяпер ім не трэба адзначацца ў міліцыі і браць дазвол на выезд за мяжу ці змену месца жыхарства.

Нагадаем: 16 мая 2011 года кіраўніка штаба кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча Сяргея Марцалева пакаралі двума гадамі зняволення ўмоўна.

20 мая кіраўнік штаба экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Уладзіміра Някляева Андрэй Дзмітрыеў і давераныя асобы Някляева Сяргей Вазняк і Аляксандр Фядута 20 мая 2011 года былі пакараны пазбаўленнем волі на два гады ўмоўна. Разам з імі разглядалася справа экс-кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага. Ён атрымаў аналагічнае пакаранне.

Днямі Ірына Халіп таксама атрымала свабоду. Больш ёй не трэба адзначацца кожны панядзелак і быць дома пасля 10-й вечара. 25 ліпеня будзе разглядацца справа экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Уладзіміра Някляева.

Два гады таму Заводскі суд Мінска прызнаў жонку былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава вінаватай ва ўдзеле ў масавых беспарадках і пакараў яе двума гадамі зняволення з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**УВАГА!**

*Як вядома, з 1 ліпеня газета "Народная Воля" і сайт "Народная Воля" — гэта абсалютна розныя выданні.*

*Друкаваны варыянт газеты "Народная Воля" цяпер трапляе ў архіўны раздзел сайта толькі праз два тыдні. Гэта значыць, з матэрыяламі свежых нумароў папяровай версіі могуць знаёміцца толькі падпісчыкі газеты і тыя, хто набывае яе ў шапіках. Дарэчы, каб атрымліваць газету дахаты з 1 жніўня, падпісацца трэба да 27 ліпеня.*

*Жадаючым чытаць "Народную Волю" ў электронным варыянце ў дзень выхаду газеты альбо напярэдадні раім аформіць спецыяльную падпіску праз рэдакцыю. Яе ўмовы падрабязна выкладзены на сайце www.nv-online.info.*

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

## *Экіпіроўка школьніка — ад 1 мільёна 240 тысяч да 3 мільёнаў 620 тысяч рублёў*

Такі разлік. Сюды ўваходзяць вопратка, абутак і школьныя прылады. Сабраць у школу старшакласніка будзе даражэй: яго аптымальная экіпіроўка каштуе ад 1 мільёна 660 тысяч рублёў да 4 мільёнаў 190 тысяч рублёў. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-службе Мінгарвыканкама са спасылкай на інфармацыю галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама.

**ЧУЛІ?**

## Андрэеўскі крыж даставяць у Мінск спеццягніком

*Х-падобны крыж, на якім, паводле падання, прыняў пакутніцкую смерць святы апостал Андрэй Першазваны, будзе дастаўлены ў Мінск 28 ліпеня ў 23.45 літарным цягніком у суправаджэнні дэлегацыі Эладскай (Грэчаскай) праваслаўнай царквы.*

У 8.00 таго ж дня крыж прынясуць на Замчышча, дзе патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл разам з кіраўнікамі і прадстаўнікамі памесных цэркваў правядзе літургію.

Пасля гэтага набажэнства Андрэеўскі крыж будзе дастаўлены ў храм-помнік у гонар Усіх Святых і ў памяць бязвінна забітых у Айчыне нашай на скрыжаванні вуліц Каліноўскага і Усіхсвяцкай, дзе застанецца да 2 жніўня.

Доступ да святыні будзе кругласутачным.

**ПАД ГРАДУСАМ**

## *Лета вяртаецца!*

*У другой палове тыдня ў Беларусі зноў будзе цёпла.*

Пра гэта паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў **Дзмітрый РАБАЎ**.

***У чацвер*** месцамі яшчэ могуць прайсці кароткачасовыя дажджы і прагрымець навальніцы. Уначы чакаецца ад 10 да 16 градусаў вышэй за нуль, днём у розных рэгіёнах Беларусі паветра прагрэецца да 20—27 градусаў. У пятніцу, 26 ліпеня, характар надвор'я кардынальна не зменіцца.

***На выхадных*** асноўным надвор'еўтваральным фактарам стануць цёплыя паветраныя масы, якія паступаюць на тэрыторыю Беларусі з Заходняй Еўропы. Дажджы паступова спыняцца.

***У суботу*** толькі па ўсходзе краіны могуць прайсці кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 9—16 градусаў, днём чакаецца ад плюс 21—23 градусаў па паўночным усходзе да 28 вышэй за нуль на паўднёвым захадзе краіны.

***У нядзелю*** ападкаў па краіне не чакаецца. Днём сіноптыкі абяцаюць плюс 23—28 градусаў, яшчэ цяплей будзе ў паўднёва-заходніх раёнах.



**ПО ПОВОДУ**

*Мария ЭЙСМОНТ*

# Никому не нужные

Моя знакомая ищет, куда можно определить больную 80-летнюю тетю. Женщина всю жизнь прожила и проработала в деревне, родила сына и дочь. Но из них не вышло заботливых детей. Пьют, о матери не заботятся. Что, собственно, в современной Беларуси не из ряда вон — обыденность. Возможно, и от переживаний, что не смогла воспитать хороших людей, у женщины начались проблемы с психикой. Может забыть, как ее зовут, поела ли, сходила ли в туалет. Ее младшая сестра, мать моей знакомой, навестив ее в деревне, схватилась за голову: в таких нечеловеческих условиях близкий ей человек жить не может!

Но... Оказывается, жить-то ей больше негде!

У матери моей приятельницы в Минске есть однокомнатная квартира, но за больной сестрой нужен постоянный уход, а ей самой уже под 80, букет заболеваний. Родственники бросились искать место в домах престарелых. Оказалось, что попасть туда нереально. В Беларуси 46 интернатов психоневрологического профиля. Но очередь неимоверная. Да и принимают только по показаниям врача и решению суда об утрате дееспособности. Заниматься такими нюансами, которые требуют много сил и времени, некому.

Найти сиделку — тоже проблема. Никто не хочет оставаться один на один с психически больным человеком. Только на пару часов и за большие деньги. У 80-летней старушки их нет. Кто-то подсказал, что при минском Доме милосердия Православной церкви есть хоспис, приют там дают всем, кто нуждается. Но хоспис оказался реабилитационным центром — стационаром дневного пребывания. Один день нахождения в нем стоит 400 тысяч, если с лечением — 500 тысяч рублей.

Есть еще один выход — заключить рентный договор, отдать квартиру в обмен на досмотр в доме престарелых. Но недвижимости в Минске у нуждающейся в уходе женщины нет, только домик в деревне. В данном случае сельское жилье — не товар, который позволил бы осуществить такую сделку.

"И что делать?" — вопрошает знакомая.

А действительно, что? Жил человек, работал всю жизнь, налоги платил. А на старости лет оказался никому не нужен. Конечно, проще всего философски заметить: мы все получаем то, что заслужили. Но даже в самой добропорядочной и интеллигентной семье вполне благополучный вроде бы сын может запить и стать алкоголиком или дочь, начав с прописанных врачом транквилизаторов, превратиться в наркоманку.

Государство предложило другой вариант: усилить ответственность нерадивых детей за престарелых родителей. Мол, если отпрыски не хотят ухаживать за немощными стариками, государство определит их в социальное учреждение, но только за счет детей. Уже есть распоряжение подготовить нормативный документ, который поможет вытрясать деньги с таких несознательных элементов. И государственная пресса готовит общественное мнение: мол, если у взрослых детей не хватает душевной теплоты и чувства долга, то государство обязано заставить их поучаствовать в судьбе родителей.

Несколько лет назад эту схему опробовали на тех, кто лишен родительских прав. Чиновников и милицию на местах обязали разыскать горе мамаш и папаш, трудоустроить и высчитывать из их зарплат деньги на содержание детей, которые живут в детских домах и интернатах. Недавно наверху отрапортовали: все нерадивые родители трудоустроены! Но есть ли польза от работника-алкоголика и предприятию, и Дому ребенка? Даже президентская газета писала о комичных случаях. В Пинске таких пьяниц к месту работы доставляли... персонально, на автомобилях, которые выделяли предприятия.

Но если в этой инициативе можно найти какой-то смысл — действительно, почему государство (а по сути мы с вами) должно забоиться о детях, в то время когда их родители пьют и гуляют, то предложение поставить заботу о нуждающихся в помощи стариках в зависимость от их пьющих детей, мягко говоря, вызывает возмущение: до чего каждый из нас может доработаться в процветающей Беларуси — до нищенской пенсии, которой не хватает даже на то, чтобы оплатить социальную койку, каких-то 7 квадратных метров площади в доме престарелых?!

Директор одного из интернатов для престарелых обмолвился, что содержание в интернате старика, имеющего трудоспособных членов семьи, стоит порядка 3,2—3,6 млн рублей в месяц. В единственном в Беларуси частном доме престарелых эта услуга дороже — 5,5 миллиона в месяц. Согласитесь, немало — у нас зарплаты не у всех такие. А уж белорусские пенсионеры таких денег и подавно не имеют. Поэтому, они, если не сложились отношения с детьми, с ужасом смотрят в будущее. В социально ориентированном государстве они рискуют остаться никому не нужными. Как родственница моей знакомой.

В цивилизованных странах эта проблема решена уже давно. Там для пожилых людей созданы интернаты разной степени комфортности, есть государственные заведения, есть частные. Пожилой человек в случае необходимости выбирает тот, который ему по карману, в крайнем случае — социальный. Нашим чиновникам перенять бы этот опыт, создать условия, чтобы данная проблема решалась и за счет частных инвесторов. Признать наконец-то, что система защиты пожилых людей в Беларуси не развита, требует срочного реформирования. Но проще, пытаясь под благовидным предлогом заставить участвовать в судьбе родителей "несознательных" детей, снять с себя, иначе говоря спихнуть, заботу о пожилых людях.

Интересно, а государство, не сумевшее создать условия для хороших зарплат и, соответственно, пенсий, не чувствует своей вины в нищенской старости наших родителей? Ведь получается, что государство за добросовестно отработанную жизнь не платит пенсионерам таких денег, которые удовлетворили бы его, государство, в качестве платы за содержание в старости.

ПАДЗЕЯ

# Тое, што беларуская дыяспара захоўваецца, выглядае цудам

*Кіраўнік міжнароднага аб'яднання "Бацькаўшчына" Алена Макоўская і старшыня Рады арганізацыі Ніна Шыдлоўская расказалі пра Шосты з'езд беларусаў свету, які пройдзе 23—24 ліпеня ў Мінску.*

Ніна Шыдлоўская.

**— Колькі чакаецца гасцей на сёлетнім з'ездзе? Наколькі ён будзе прадстаўнічы?**

**Ніна Шыдлоўская (Н.Ш.):** — Склікаць дэлегатаў штораз адначасова і проста, і складана. Проста, бо статус форуму ўжо замацаваны сярод беларусаў замежжа, у суполках ведаюць узровень правядзення гэтага мерапрыемства і кола пытанняў, якія звычайна абмяркоўваюцца. Таму прыязджаюць, як правіла, кіраўнікі беларускіх суполак за мяжой ды іх намеснікі ці актыўныя людзі, якія займаюцца беларускай справай у краінах свайго пражывання. Сёлета на з'ездзе чакаем каля 200 удзельнікаў, якія прыедуць з 18 краін свету. Прадстаўнічасць з'езда не зніжаецца, і гэта радуе. Але ёсць адна праблема — менш, чым на ранейшых з'ездах, будуць прысутнічаць знакавыя фігуры заходняй дыяспары, якія выехалі з паваеннай хваляй і актывізавалі беларускае жыццё за мяжой. Прычына тут аб'ектыўная — праз свой узрост людзі ўжо не могуць пераадольваць вялікія адлегласці.

**— Ці шмат гасцей будзе ўдзельнічаць у працы з'езда ўпершыню?**

**Н.Ш.**: — Нам прыемна адзначыць, што абнаўленне ёсць. У большай частцы на з'ездзе будуць прадстаўлены тыя суполкі, якія ўжо бралі ўдзел у ранейшых з'ездах. Але асобы, якія прадстаўляюць гэтыя суполкі, прыязджаюць не адны і тыя ж. Сёлета будуць і новыя сябры, якія прыйшлі ў "Бацькаўшчыну" цягам апошніх чатырох гадоў.

**— Ці чакаецца ўдзел прадстаўнікоў улады?**

**Алена Макоўская (А.М.):** — Напярэдадні кожнага з'езда мы рашэннем Малой рады накіроўваем запрашэнні ў тыя міністэрствы і дзяржаўныя структуры, да кампетэнцыі якіх належыць супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай. Таму яшчэ два месяцы таму мы даслалі адпаведныя лісты. Цяпер якраз атрымліваем адказы. На сённяшні дзень ужо ёсць пацвярджэнне ад Міністэрства эканомікі, Нацыянальнага сходу, Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі. Таксама мы атрымалі інфармацыю ад Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў аб яго ўдзеле ў працы з'езда. Ад Міністэрства інфармацыі адказу пакуль няма. Да Міністэрства замежных спраў і Міністэрства культуры, напэўна, будзе больш за ўсё пытанняў, датычных законапраекта "Аб беларусах замежжа", праграмы "Беларусы ў свеце", віз.

**— Чым абумоўлены выбар цэнтральнай тэмы з'езда "Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі"?**

**А.М.:** — Працэсуальна вызначэнне тэмы адбываецца так. Спачатку сябры Управы абмяркоўваюць патэнцыяльныя тэмы, якія могуць быць актуальнымі. Пасля тэмы ідуць на разгляд Малой рады, а ўжо пасля ўзгадняюцца з сябрамі Вялікай рады, якая напалову складаецца з кіраўнікоў і актывістаў беларускіх арганізацый у замежжы. Разглядалася некалькі тэм з'езда, але бальшыня спынілася менавіта на тэме "Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі", якая вельмі важная: варункі змяняюцца, свет робіцца больш дасяжным, ідуць глабалізацыйныя працэсы, узаемапранікненне культур, і, натуральна, беларусы сустракаюць новыя выклікі. Так, дапусцім, прадстаўнікі далёкіх заходніх дыяспар у сваёй міжасабовай камунікацыі аддаюць перавагу скайп-канферэнцыям, і ўжо не так лёгка сабраць усіх разам нават на нейкую мясцовую сустрэчу. Таму на з'ездзе вось гэтыя новыя варункі, у якіх працуе наша дыяспара, і будуць абмяркоўвацца разам з іншымі пытаннямі нацыянальнага культурнага жыцця. Канечне ж, будуць уздымацца такія важныя пытанні, як прыняцце закона "Аб беларусах замежжа" і дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце".

**— Якія яшчэ ёсць надзённыя праблемы ў беларускіх дыяспарах?**

**Н.Ш.:** — Відавочна, самая вялікая праблема нашай нацыі, якая адбіваецца наўпрост на прысутнасці беларусаў у свеце, — гэта невысокі ўзровень нацыянальнай ідэнтычнасці. Гэта тэма ўздымаецца на кожным з'ездзе і наогул цягам дзейнасці "Бацькаўшчыны" і грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!", якую каардынуе "Бацькаўшчына". Без узмацнення гэтага асноўнага моманту любы беларус, які з'язджае са сваёй краіны, не захоўваючы нацыянальнай, культурнай прывязкі да краіны-метраполіі, проста робіцца жыхаром іншай краіны або трапляе да арганізацыйна больш моцных дыяспар, такіх як руская ці ўкраінская. Такім чынам мы страчваем яго як прадстаўніка беларускай нацыі.

На фоне гэтай праблемы штогод робіцца ўсё больш актуальнай праблема пераемнасці пакаленняў. Адыходзіць старая хваля эміграцыі, якая мае магутную нацыянальную ідэнтычнасць. Менавіта гэтыя людзі заснавалі на Захадзе беларускія культурныя асяродкі, цэрквы, музеі, школы. Яны вялі не проста лакальную дзейнасць, а рабілі бачнай беларускую прысутнасць у сваіх краінах праз работу на ўзроўні ўрадаў краін пражывання. Цяпер новае пакаленне не перахоплівае ўзнятыя сцягі з розных прычын, у тым ліку аб'ектыўных — працэс глабалізацыі і слабая нацыянальная ідэнтычнасць. Атрымліваецца, што старое пакаленне адыходзіць, а на іх месца ў суполцы далёка не заўсёды прыходзяць актыўныя людзі з такім жа імпэтам. А імпэт неабходны, бо складана весці паслядоўную работу, калі няма на сёння дэманстрацыі з боку нашай дзяржавы патрэбы ў актыўным праяўленні беларусамі сваёй прысутнасці ў краінах пражывання. Неабходна заканадаўчая база, на якую змогуць абапірацца беларусы замежжа, тады і нашы дзяржаўныя органы пачнуць па-новаму глядзець на супрацоўніцтва з беларусамі замежжа. Пакуль гэтага няма, размыванне беларускай нацыі будзе працягвацца.

**А.М.:** — Да агучаных праблем яшчэ можна дадаць і праблему беларускага школьніцтва ў замежжы. У лічаных краінах ёсць такія школы, і створаны яны былі высілкамі беларусаў гэтых краін. За апошнія 20 год не паўстала ніводнай новай школы, а гэта таксама ўплывае на пераемнасць пакаленняў, на фарміраванне новага пакалення беларусаў замежжа.

**— На якія прыклады вы арыентуецеся ў сваёй дзейнасці?**

**Н.Ш.:** — Узорам для нас з'яўляецца дзейнасць польскай дзяржавы, а таксама Украіны і Расійскай Федэрацыі, дзе ўсведамляецца неабходнасць і агульная карысць ад такога мэтаскіраванага і паслядоўнага супрацоўніцтва са сваімі суайчыннікамі. А гэта значыць, што са зменай пэўнага адказнага чыноўніка кірунак работы не змяняецца, бо яна праводзіцца сістэмна. Гэтыя дзяржавы ўкладаюцца ў развіццё школьніцтва, навучальных праграм, супрацоўніцтва ў галіне культуры, якое ўзмацняе эмацыянальную прывязку да краіны-метраполіі. Гэта і шматлікія палёгкі, як, напрыклад, картка паляка. З пункту гледжання Беларусі яна нясе вялікую небяспеку, але з пункту гледжання палякаў гэта слушны крок, калі ты хочаш захаваць і пашырыць сваю дыяспару, залучыць у краіну спецыялістаў. І такіх крокаў у краінах-суседзях робіцца вельмі шмат. На жаль, на сёння ў Беларусі такога няма, і супрацоўніцтва праводзіцца толькі кропкава. Дзяржава дзесьці камусьці дапамагае з касцюмамі, выступамі на канцэртных пляцоўках, недзе вядзецца супольны бізнес, але супрацоўніцтва праводзіцца выбарачна і не дае беларусам замежжа адчування запатрабаванасці і цікавасці да сябе як прадстаўнікоў сваёй дзяржавы там, за мяжой. Адпаведна, калі ты не патрэбны, а яшчэ і маеш праблемы з тым, каб арганізаваць суполку, адкрыць школу, дастаць падручнікі і матэрыялы для навучання дзетак, імпэт з гадамі знікае. І так выглядае цудам, што беларусы, якія працуюць на ўласным энтузіязме, застаюцца аўтарытэтнымі дыяспарнымі суполкамі ў краінах пражывання.

**А.М.:** — Некаторыя краіны нават робяць крок наперад, пра што мы можам толькі марыць. Немцы, шведы, тыя ж палякі ствараюць у свеце інстытуты сваёй культуры, каб лаяльнасць да іх расла і каб колькасць сяброў і паплечнікаў павялічвалася.

**— Як за мяжой змяняецца колькасць тых, хто лічыць сябе беларусам?**

**Н.Ш:** — На адным толькі энтузіязме доўга існаваць немагчыма, таму мы губляем людзей практычна кожны год. Кожны перапіс насельніцтва ў тых краінах, дзе была заўважная беларуская прысутнасць, дэманструе, што беларусаў робіцца менш, на жаль. Прычым вельмі істотна. І яны не паміраюць, не пераязджаюць, яны перастаюць сябе атаясамліваць, прынамсі юрыдычна, з Беларуссю з шэрагу прычын.

**— У чым можа быць практычная карысць з'езда?**

**А.М.:** — Кожны з'езд з'яўляецца адлюстраваннем грамадска-палітычнага дыскурсу на момант правядзення форуму і вызначае асноўныя праблемы, якія стаяць перад беларусамі на час правядзення з'езда. І будучае мерапрыемства — не выключэнне. На ім будуць уздымацца актуальныя пытанні беларускага жыцця, датычныя як беларусаў замежжа, так і беларусаў з Беларусі. Са з'езда ў з'езд пастаянна гучыць пытанне беларускай мовы і яе месца ў грамадскім ды дзяржаўным жыцці. Прадстаўнікі беларускіх арганізацый за мяжой кажуць, што гэта вы там у сябе ў Беларусі вырашайце значэнне мовы і культуры, а нам — беларусам замежжа — больш няма вакол чаго аб'ядноўвацца, толькі вакол беларускай культуры і мовы, бо гэта тое, што нас яднае з суайчыннікамі і вылучае сярод іншых народаў, якія насяляюць краіну пражывання. Таксама будуць прыняты праграмныя дакументы, важныя для дэлегатаў з'езда. Да ўсяго гэты форум — выдатная пляцоўка для абмену досведам, бо прыедуць прадстаўнікі суполак з розных краін свету з рознымі праблемамі, пытаннямі, дасягненнямі. Сумеснае абмеркаванне заўжды ўзбагачае, натхняе і надае імпульс да будучага развіцця.

**Н.Ш.:** — У час працы з'езда будуць працаваць тры секцыі, дзе ў рэчышчы агульнай тэмы з'езда адбудзецца больш дэталізаванае абмеркаванне наяўных праблем. Сярод іх — магчымасці метраполіі і дыяспары ва ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці, супрацоўніцтва "новай" і "старой" эміграцыі на карысць нацыянальнага развіцця, культурная спадчына беларускага замежжа. Пасля такіх абмеркаванняў будуць выпрацаваны ў тым ліку практычныя парады прадстаўленым там суполкам. Таксама высновы, што будуць зроблены падчас работы секцый, будуць уключаны ў асноўныя дакументы, на якіх не толькі базуецца работа "Бацькаўшчыны" як міжнароднага аб'яднання, але яшчэ ідзе апеляванне да тых дзяржаўных структур, якія павінны рабіць крокі па супрацоўніцтве з беларусамі замежжа. Паводле водгукаў, для ўдзельнікаў з'езда не менш каштоўным з'яўляецца абмен досведам. Пры рознай спецыфіцы ў краінах пражывання беларусы маюць агульныя праблемы і рознае бачанне, як гэтыя праблемы вырашаць.

Алена Макоўская.

**Гутарку вёў**
**Мікалай ДУБАВІЦКІ.**

РЭГІЁНЫ

## Сапсаваў вяселле і ўласнае жыццё

*У Магілёве з-за фальшывага паведамлення аб мініраванні з рэстарана эвакуіравалі вяселле.*

Злаўмыснік выбраў для званка выдатны час — вачар, калі ў рэстаране "Санта-Марыя" гулялі вяселле. Праваахоўнікі не маглі не зрэагаваць на паведамленне, і работнікам міліцыі прыйшлося эвакуіраваць 25 чалавек. На шчасце, інфармацыя аб мініраванні не пацвердзілася. Вось толькі вяселле прыйшлося на цэлыя дзве гадзіны перанесці на вуліцу.

Фінал гісторыі атрымаўся зусім нечаканым. Аказалася, што званіў пенсіянер, якога запрасілі на вяселле. Падвыпіўшы, жыхар Магілёва засумаваў і вырашыў зрабіць вечар больш разнастайным.

Цяпер пенсіянера будуць "весяліць" праваахоўнікі. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа, якая прадугледжвае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

## Азвярэў ад выпіўкі

*Будаўнік з Гомеля насмерць забіў свайго калегу пасля вечарынкі.*

23-гадовы гамяльчанін Павел Крачкоў прыехаў у Рагачоў для выканання работ па аздабленні фасадаў будынкаў. У адзін з вечароў пасля работы ён выпіваў з напарнікам. Невядома, з чаго пачалася сварка, але п'яныя мужчыны ўчынілі бойку.

Перавага была на баку маладога Крачкова, які ў дадатак праходзіў службу ў спецыяльных вайсках. Яго п'яны напарнік нават не мог абараняцца, паведамляе "Свабоднае слова". Крачкоў увайшоў у такі шал, што з вышыні свайго росту ўдарыў локцем няшчаснага напарніка. Гэтая траўма аказалася фатальнай.

Суд Рагачоўскага раёна прызнаў Крачкова вінаватым і прызначыў пакаранне ў выглядзе сямі гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

## У ягады на суткі...

*Мужчына 1940 года нараджэння заблукаў у лесе, калі выправіўся ў ягады.*

Пенсіянер адправіўся ў лес на ўласным аўтамабілі, што выклікала толькі большую заклапочанасць. Днямі стала вядома, што жыхарку Мінска, што знікла пасля таго, як таксама пайшла ў ягады, знайшлі мёртвай. Злачынцы забілі яе з-за аўтамабіля.

На пошукі пенсіянера адправіліся выратавальнікі, міліцыянты, супрацоўнікі арганізацый Нараўлянскага раёна і мясцовыя жыхары. На шчасце, зніклага знайшлі ўсяго праз гадзіну пасля пачатку пошукаў. Пацярпелы адчуваў сябе няблага, яго нават не сталі адвозіць у шпіталь.

НУ И НУ!

## Влюбленный прораб

*Щучинский прораб отправлял подчиненных строить дачу любовнице.*

На протяжении почти двух лет он периодически отправлял пять подчиненных работников выполнять строительно-монтажные работы в дачном доме своей знакомой. При этом для начисления и выплат им заработной платы, а также других выплат вносил заведомо ложные сведения в официальные документы — табели учета рабочего времени и табели-расчеты на выплату надбавки за разъездной характер работ, которые представлял в отдел кадров и бухгалтерию предприятия.

Как сообщил официальный представитель управления Следственного комитета по Гродненской области **Сергей Шершеневич,** в результате не выполнявшим обязанности рабочим было необоснованно начислено свыше 12 млн рублей.

Уголовное дело передано прокурору для решения вопроса о направлении в суд.

БУДЬТЕ ВНИМАТЕЛЬНЫ!

## Гранатовый сок с токсичным мутагеном

*В Беларуси запрещена реализация партии гранатового сока российского производства.*

"Орган по сертификации продукции, услуг и персонала БелГИМ отказывает в признании сертификата соответствия импортеру в Республике Беларусь ООО "Евроторг" на партию сока гранатового восстановленного пастеризованного осветленного, номинальный объем 1 литр, дата изготовления 08.06.2013, срок годности 08.06.2014, в количестве 6480 стеклянных бутылок, изготовленного ООО ТПК "Аршани", Московская обл., Сергиево-Посадский район, Россия", — сообщает пресс-служба Министерства торговли.

Причина запрета — несоответствие нормам (СТБ 1824-2008) по массовой доле оксиметилфурфурола.

Оксиметилфурфурол — промежуточный продукт химического разложения сахаров, который легко образуется при нагревании из моносахаридов в кислой среде. Токсичный мутаген.

ДИАГНОЗ

## Что делать Василию Жарко?

*Генеральная прокуратура проверила работу Министерства здравоохранения.*

В официальном сообщении Генпрокуратуры сказано, что по результатам проверки выявлен ряд нарушений требований законодательства, которые негативно влияют на доступность и качество медицинского обслуживания населения.

Что это за нарушения?

Во-первых, правоохранительные органы пришли к выводу, что нередко жалобы пациентов на ненадлежащую организацию медицинской помощи остаются без должного реагирования, а факты явных нарушений — без надлежащей оценки. Чиновники от медицины не анализируют причины и условия, порождающие жалобы населения. *"Имеются случаи ненадлежащего оказания медицинской помощи детям. Допускаются неверная клиническая диагностика заболевания, недооценка степени тяжести состояния пациентов, несвоевременная госпитализация в стационар учреждений здравоохранения и так далее"* — говорится в сообщении Генпрокуратуры.

К слову, за последние два года на треть увеличилось число жалоб на организацию работы и лечения в поликлиниках. На 13% стало больше пациентов, недовольных тем, как им оказывают помощь в стационарах.

Почему не удается решить проблему некачественного и несвоевременного оказания медицинской помощи населению? Сотрудники Генпрокуратуры одной из главных причин называют дефицит кадров в медицине, что нередко приводит к высокой загруженности медицинского персонала.

Сегодня в Беларуси, несмотря на оптимистические заявления министра здравоохранения Василия Жарко, что к 2014 году кадровый дефицит в медицине будет ликвидирован, обеспеченность врачами составляет только 71%. Есть районы, где больницы укомплектованы врачами только на 30%. Зачастую ситуацию спасают пенсионеры. Например, в Воложинской ЦРБ Минской области из 144 единиц персонала по штатному расписанию укомплектовано лишь 84 (58%), из них 24% врачей — пенсионного возраста.

Дефицит кадров, неадекватная нагрузкам зарплата приводит к тому, что врачи вынуждены работать на полторы ставки, подрабатывать.

*"Высокий коэффициент совместительства нередко ведет к чрезмерным нагрузкам на специалистов, в том числе и на тех, чья деятельность связана с повышенным риском для жизни и здоровья пациентов,* — отмечается в сообщении прокуратуры. — *К примеру, заведующий отделением пластической и эстетической хирургии УЗ "4-я ГКБ" г.Минска 26.03.2012 по месту основной работы выполнил две операции общей продолжительностью более 5 часов. После окончания рабочего дня (с 17.00 до 20.00) им проведена пластическая операция в СООО "Экомедсервис — Медицинский центр" пациентке К., которая впоследствии скончалась".*

На что еще обратила внимание Генпрокуратура: в отдельных регионах страны остро стоит проблема отсутствия медико-социальной помощи лицам пожилого и старческого возраста. Например, в Минске функционирует единственное государственное отделение сестринского ухода на базе 11-й городской больницы. Но количество койко-мест в отделении сократилось с 60 до 10. Более того, стоимость пребывания пациентов в этом отделении определялась не в соответствии с законодательством, а исходя из тарифов, утвержденных главврачом, и составляла 6 млн рублей в месяц без учета стоимости медикаментов.

*"По результатам проверки министру здравоохранения Республики Беларусь внесено представление об устранении выявленных нарушений,* — заявили в Генпрокуратуре. — *Его рассмотрение находится на контроле Генеральной прокуратуры".*

Посмотрим, получится ли у министра ликвидировать выявленные нарушения. Или лучше сразу подать в отставку? Ведь низкие зарплаты в медицине, дефицит врачей — это не только головная боль Минздрава. Это часть государственной политики.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

АДУКАЦЫЯ

## Ці атрымаецца далучыцца да Балонскага працэсу з другой спробы?

*У 2015 годзе Беларусь зноў зможа "падаць дакументы" на далучэнне да Балонскага працэсу. Каб на гэты раз спроба была ўдалай, трэба выправіць хібы, якія прысутнічаюць сёння ў беларускай сістэме вышэйшай адукацыі. Удзельнікі Грамадскага балонскага камітэта прысвяцілі гэтаму цэлую "Белую кнігу" — зборнік парад і рэкамендацый, якія дапамогуць ператварыць айчынную вышэйшую адукацыю з аўтсайдара рынку ў лідара.*

Сорамна прызнацца, але Беларусь — адзіная ў свеце краіна, якой з першага разу адмовілі ў далучэнні да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі (Балонскага працэсу). Можна зрабіць выгляд, што не надта і хацелася. Але рэальныя абставіны вымушаюць чыноўнікаў ад адукацыі прыслухоўвацца да парад і еўрапейскіх калег, і грамадскіх ініцыятыў. Удзел у Балонскім працэсе пацвярджае якасць адукацыі, не дае ёй скаціцца ніжэй даволі высокай планкі.

У 2015 годзе Беларусь зноў зможа "падаць дакументы" на далучэнне да Балонскага працэсу. Каб на гэты раз спроба была ўдалай, трэба адмовіцца ад аўтарытарнай сістэмы кіравання, змяніць падыход да фінансавай і адукацыйных сістэм. І гэта толькі некаторыя агульныя праблемы, якія трэба неадкладна вырашаць.

*"У нашай сістэме вышэйшай адукацыі няма нічога самабытнага,* — заявіў сябра Грамадскага балонскага камітэта прафесар **Уладзімір Дунаеў**. — *Яна проста цягнецца ў хвасце і паўтарае чужыя памылкі замест таго, каб на іх вучыцца"*.

"Белая кніга" — не спіс прэтэнзій ці патрабаванняў. Гэта рэкамендацыі ад спецыялістаў, якія праводзілі маніторынгі і параўнанні. Факты, што сабралі стваральнікі тэматычнага зборніка, не могуць не ўражваць. Так, напрыклад, высветлілася, што ВНУ Беларусі амаль не маюць дачынення да навуковай дзейнасці, хоць колькасць студэнтаў за апошнія гады ўзрасла ў два разы!

*"Мы не лічым Мінадукацыі неўспрымальным сапернікам, які не хоча нас слухаць,* — выказаўся спадар Дунаеў. — *Дзякуючы еўрапейскім калегам мы селі за стол перамоў з прадстаўнікамі гэтай установы. І хоць часам спрэчкі праходзілі на падвышаных танах, у некаторых момантах мы пагаджаліся"*.

Па словах прадстаўнікоў Грамадскага балонскага камітэта, чыноўнікі ад адукацыі ўсё ж такі не супраць перамен. Але крокі робяць непаслядоўныя і часам скажаюць сэнс некаторых патрабаванняў. Дунаеў і яго калегі ўпэўнены, што такія памылкі адбываюцца невыпадкова — гэта спробы захаваць аўтарытарную сістэму ў кіраванні ВНУ. Але ёсць і пазітыўныя зрухі: аднаўлена практыка-арыентаваная магістратура, скарочаны час навучання на першай ступені.

Між тым гэтага недастаткова не толькі для таго, каб уключыцца ў Балонскі працэс. У першую чаргу трэба адказаць на патрабаванні беларускіх працадаўцаў, якія штогод адзначаюць нізкі ўзровень падрыхтоўкі маладых спецыялістаў. Фактычна выпускнік ВНУ не мае ведаў і ўменняў, каб пачаць паўнавартасную працу.

Стваральнікі "Белай кнігі" — не адарваныя ад рэальнасці аптымісты, якія лічаць, што змен у сістэме вышэйшай адукацыі можна дасягнуць хутка і малай крывёю. Між тым Грамадскі балонскі камітэт падрыхтаваў рэкамендацыі ў Кодэкс аб адукацыі, якія дапамогуць зменшыць прэтэнзіі ад еўрапейскіх калег.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПРЫНЦЫПОВЫ ПОГЛЯД

# «Казус Святлова»,
## ці Хто ў Беларусі гаспадар?


Барыс Святлоў.

Сеанс самапрыніжэння — менавіта такія асацыяцыі ў мяне ўзніклі пасля таго, як прачытаў інфармацыю аб казусе з міністрам культуры Беларусі на прэс-канферэнцыі, прысвечанай адкрыццю "Славянскага базару". Для тых, хто не зусім знаёмы з сітуацыяй, патлумачу: Барыс Святлоў пачаў сваё выступленне на вышэйзгаданым мерапрыемстве на добрай беларускай мове, але, пачуўшы заўвагі расійскіх журналістаў, сумеўся і адразу перайшоў на "великий и могучий"...

Канечне, можна казаць пра хамаватасць нашых гасцей з усходу, якія вось так, не саромеючыся, перапыняюць міністра! Тым больш што яны маглі загадзя папрасіць арганізаваць ім сінхронны пераклад на рускую мову. Але ж гэты выпадак больш сведчыць не пра расійскае нахабства, а пра беларускае нацыянальнае самапрыніжэнне і гатоўнасць да нацыянальнага самааплёўвання. Прычым, як паказвае практыка, гэты комплекс засвоены не толькі шараговымі грамадзянамі, але і чыноўнікамі самага высокага ўзроўню.

Высвечвае гэты сапраўды дзікі выпадак і тое, наколькі фальшывымі і крывадушнымі з'яўляюцца ўсе размовы пра тое, што "мы — адзін народ", "рускія са знакам якасці", што "беларуская мова — дыялект рускай" і г.д. Напрыклад, у немцаў і аўстрыйцаў няма ніякіх праблем с паразуменнем, бо карыстаюцца яны адной нямецкай мовай, зразумела, са сваімі рэгіянальнымі асаблівасцямі, якія склаліся на працягу стагоддзяў. І пры гэтым нікому ў гэтых дзяржавах і ў галаву не прыйдзе думка адмаўляць той факт, што гэта розныя народы. Ды яшчэ і на самым высокім узроўні. А ў Беларусі сам прэзідэнт робіць усё, каб прынізіць значэнне і ролю нацыянальных адметнасцяў: нацыянальнай мовы, культуры і шматвекавой гісторыі.

Пры гэтым, як мантра, паўтараюцца высокія, прыгожыя словы пра нашу дзяржаўную незалежнасць. Напрыклад, зусім нядаўна з вялікай помпай была адкрыта плошча Дзяржаўнага сцяга, якая павінна, па словах Лукашэнкі, паставіць кропку ва ўсіх спрэчках вакол пытання беларускага суверэнітэту. Надзвычай сумніўная заява. Бо ўся практыка стварэння новых маладых дзяржаў, у тым ліку і на абшарах былога СССР, сведчыць пра тое, што ў сапраўднай дзяржаўнай незалежнасці дзве галоўныя апоры — сучасная канкурэнтаздольная эканоміка і выразна акрэсленая нацыянальная ідэя, якую падтрымлівае пераважная большасць грамадзян.

За 19 гадоў свайго кіравання рэжым Лукашэнкі, прабачце за вобразны выраз, эканоміку праспаў. Пра якую незалежнасць можна ўвогуле весці гаворку, калі 10-мільённая краіна залежыць ад таго, ці выб'е яе кіраўнік у Расіі газ па зніжаных коштах і ці выпрасіць павелічэння аб'ёмаў паставак дармавой нафты?! Нават зараз, калі Беларусь набывае прыродны газ у Расіі па найменшых у Еўропе коштах, у нас цэлы вал найвастрэйшых праблем у энергетыцы, а значыць, і ва ўсёй эканоміцы. А калі б мы куплялі газ па тых коштах, якія "Газпром" выстаўляе Украіне, — больш за 400 долараў за 1000 кубаметраў? Быў бы калапс для нашых энергазатратных прамысловых гігантаў, дзе занята значная колькасць працуючых. Тое ж тычыцца і сітуацыі з нафтай. Бо менавіта продаж нафтапрадуктаў, выробленых з расійскай нафты, з'яўляецца адной з важнейшых крыніц напаўнення дзяржбюджэту.

Дадайце сюды прыбыткі ад экспарту калійных угнаенняў, продажу алкагольных напояў, і вы ўбачыце, што Лукашэнка стварыў па сутнасці сыравінную мадэль эканомікі, якая цалкам залежыць ад таго, што вырашыць у Крамлі спадар Пуцін. Да таго ж больш за 70 працэнтаў нашага таварнага экспарту завязаны на тую ж Расію. Успомніце, колькі было вэрхалу вакол забароны паставак нашага цукру ці малочных вырабаў на ўсход. Ні даць, ні ўзяць — істэрыка на самым высокім узроўні. Кіраўніцтва НЕЗАЛЕЖНАЙ дзяржавы так сябе не паводзіць.

Пра нацыянальную ідэю нават і казаць не хочацца. Тыя, хто сёння пры ўладзе, не толькі не спрабуюць яе сфармуляваць і пачаць працэс папулярызацыі ў масах — наадварот. Робіцца ўсё, каб пабудаваць Беларусь як цалкам дэнацыяналізаваную дзяржаву, якая пазбаўлена гістарычных падмуркаў свайго існавання. Робіцца гэта мэтанакіравана і паслядоўна.

У гэтым шэрагу і вяртанне сталінскага, абсалютна штучнага чырвона-зялёнага сцяга, які, я лічу, не мае ніякага дачынення да нашай гісторыі; і перанос Дня Незалежнасці на дату вызвалення Мінска ад нямецкай акупацыі, хаця пасля 3 ліпеня 1944 года мы не займелі ні свабоды, ні незалежнасці і яшчэ 45 гадоў жылі пад уладай Масквы; і многае-многае іншае. Дастаткова паглядзець на юбілеі амаль усіх дзяржаўных інстытутаў (ад міліцыі да статыстыкі). Яны вядуць адлік сваёй гісторыі з бальшавіцкага перавароту 1917 года. І гэта робіцца спецыяльна, каб не дай Бог не пачалі ўзгадваць пра слаўную гісторыю Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай...

Вось і прыязджаюць журналісты з Расіі ў Беларусь, дзе, па сцвярджэнні яе ж кіраўнікоў, жывуць "тожа рускія", і чуюць чамусьці незразумелую нацыянальную мову. Хто дазволіў? На якой падставе?

Апошнім часам усё больш відавочным робіцца факт, што сапраўдныя гаспадары Беларусі знаходзяцца зусім не ў Мінску, а ў Маскве. І паводзяць яны ў Беларусі сябе, як гаспадары. Захацелі пабудаваць офіс "Газпрома" на месцы жыццёва неабходнага тубыльцам транспартнага вузла — калі ласка, захацелі размясціць авіябазу — любое месца на выбар... Адным словам, што б ні пажадаў "старэйшы брат" — будзе выканана. Ну а знішчыць адукацыю на нацыянальнай мове і арганізаваць рэпрэсіі супраць "ворагаў славянскага адзінства" нашы "служкі народа" і без падказак заўсёды гатовы.

Я думаю, што самыя апошнія аптымісты нарэшце павінны зразумець, што Лукашэнка са сваёй вертыкаллю пачаў незваротны працэс здачы беларускага суверэнітэту. І "казус Святлова", які, як паслухмяны шкаляр, гатовы выконваць заўвагі нявыхаваных журналістаў з Расіі, — яшчэ адно гэтаму пацвярджэнне.

**З павагай да рэдакцыі "Народнай Волі" —**

**Дзяніс РАБЯНОК,**
**актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

*г.Калінкавічы.*

### АД РЭДАКЦЫІ

**Вы можаце ўявіць такую сітуацыю: у Маскве падчас Дзён Беларусі высокі расійскі чыноўнік дае прэс-канферэнцыю, у якой прымаюць удзел нашы журналісты, на беларускай мове?**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# *Нехрышчоныя дзеткі, бо бацькі без даведкі*

**У Баранавічах маладая сям'я вырашыла пахрысціць дзіця ў мясцовым храме і ў якасці хросных бацькоў захацела бачыць сяброў са сталіцы. Аднак святар ім адмовіў, бо ў мінчукоў не было даведкі, што яны "прайшлі курсы па прысвячэнні ў таемства хрышчэння па месцы жыхарства".**

*Ці ж гэта выпадак будзённы?*
*Радзіўся хлопчык — пяць кіло!*
*Яго чакалі маладзёны,*
*І шчасцю межаў не было.*
*Трэ на любога чалавека*
*Ад першых дзён "ускласці крыж",*
*Каб адчувалася апека*
*Магутных сіл, што недзе звыш.*
*У светлым храме, доме Бога,*
*Хрысцілі люд ва ўсе вякі.*
*І для таемства вось такога*
*Патрэбны хросныя бацькі.*
*Для гэтай ролі са сталіцы*
*Былі запрошаны сябры:*
*На маці — дзеўка-маладзіца,*
*На бацьку — хлопец не стары.*
*Аднак святар у храме строга*
*Сказаў ім:*
*— Невядома мне,*
*Малітвы ўзносіце да Бога*
*Ці моліцеся сатане.*
*Згадаўшы д'ябла выпадкова,*
*Як і належыць, тут жа поп*
*Нібы закрэсліў тое слова —*
*Перахрысціў уласны лоб.*
*— Праходзілі вы курсы дзесьці?*
*Экзамены здавалі вы?*
*Даведку вінныя прынесці*
*Сюды з тамтэйшае царквы.*
*То доказ будзе, што ў сталіцы*
*Хадзілі вы ў мясцовы храм,*
*Не ленаваліся маліцца,*
*Штодня Псалтыр чыталі там.*
*Ну што ж, паехалі дахаты*
*"Праходзіць курсы" мінчукі.*
*У храм наведваліся ў святы,*
*Чыталі Біблії радкі.*
*Займелі мінчукі паперу*
*У рэшце рэшт ад святара:*
*Засвоілі належна веру*
*Яны на ўзроўні Псалтыра.*
*І зноў далёкая дарога,*
*І зноў палесская зямля...*
*Падрыхтаваныя, да Бога*
*У храм панеслі немаўля.*
*— Нарэшце пахрысціце дзетку...*
*Ды недаверлівы святар*
*Спачатку ў рукі ўзяў даведку*
*І зноўку кісла зморшчыў твар:*
*— Не пахрышчу я вам дзіцятка,*
*Яго прынеслі вы дарма...*
*Даведка ёсць.*
*А дзе пячатка?*
*Чаму пячаткі тут няма?*
*Зусім магчыма, што вы самі,*
*Не зазіраючы ў царкву,*
*Даведку гэту напісалі...*
*Дык не дурыце галаву!*
*І гнеў ужо стрымаць не можа*
*Сапраўдны бацька-маладзён:*
*— Ці чуе і ці бачыць Божа,*
*І ці ўхваляе гэта Ён?*
*З такім хрышчэннем цяпнем гора,*
*Бюракратызм — не бачыў свет,*
*Цяпер царква — нібы кантора...*
*Прасцей схадзіць у сельсавет!*

* * *

*Мы ўсе памром...*
*Але спачатку*
*Даведку ў неба варта ўзяць.*
*Як не паставіць поп пячатку,*
*Там Бог паставіць нам пячаць.*

РЭЗАНАНС

# Не трэба прыніжаць людзей...



Як вядома з прэсы, міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі марыць пра тое, каб нарматыў спажывання вады быў паменшаны. І лічбы прыводзяцца, што "ўсе населеныя пункты, акрамя буйных абласных цэнтраў, спажываюць менш як 140 літраў вады ў суткі на чалавека". А ці так гэта?

Я баўлю лета ў адным з аграгарадкоў Магілёўскай вобласці. Пакуль ёсць сілы, трымаю агарод. І ў летнюю спёку, калі патрэбна штодзённа паліваць расліны, трацiцца не 140, а ўсе 200 літраў вады. Хто яе там лічыць, колькі вады ўзята з калонкі? А са студні?

Укласціся ў нарматыў 140 літраў вады на чалавека ў суткі ў Мінску вельмі складана. Патрэбна эканоміць, эканоміць і эканоміць. Не паверыце, але я раскажу, як адзін мой знаёмы спрабуе эканоміць спажыванне вады, каб укласціся ў адведзены нарматыў. Ён жыве насупраць Нацыянальнай бібліятэкі. Па-першае, калі ўзнікае патрэба схадзіць у туалет, то ён іншы раз нават бегае ў бібліятэку. Там вада не лічыцца. Па-другое, у гэтым раёне ёсць калонка, дзе ўвесь цёплы сезон года можна набраць чысцюткай вады. І там яе таксама не лічаць. Па-трэцяе, калі ён прымае душ, то ставіць у ванну ёмкасць і сэканомленую ваду выкарыстоўвае потым для бытавых нужд.

Укласціся ў нарматыў менш як 140 літраў вады на чалавека ў суткі магчыма і можна, але ж нашто прыніжаць людзей? Лепш бы міністр паклапаціўся пра якасць пітной вады. Напрыклад, каб карыстацца пітной вадой у Маскоўскім ці Фрунзенскім раёне сталіцы, патрэбна карыстацца фільтрамі. А гэта дадатковыя расходы. У той жа час плата за ваду аднолькавая з тымі раёнамі сталіцы, дзе яна добрай (адносна) якасці.

Выконваецца дзяржаўная праграма "Чыстая вада" на 2011—2015 гады, у адпаведнасці з якой добрай пітной вадой павінны быць забяспечаны ўсе сельскія населеныя пункты Беларусі. Але хай бы міністр прыехаў у які-небудзь аграгарадок і паспрабаваў бы ваду на смак.

**П.І.РОГАЧ.**

*Магілёўская вобласць — Мінск.*

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# *За что сняли Геннадия Пасевина?*

***Знаю, что на днях со скандалом с должности сняли главу администрации Советского района Минска. Может, известны какие-то подробности?***

**Игорь Янушик,**
**Минск.**




В отношении бывшего чиновника за неоднократные злоупотребления служебными полномочиями и служебный подлог возбуждены уголовные дела.

Как сообщила старший оперуполномоченный по особо важным делам ГУБЭП МВД **Вероника Посметьева**, в январе этого года чиновник, не имея права управлять служебным автомобилем, в нерабочее время совершил ДТП. Ремонт авто, который обошелся в 15 миллионов белорусских рублей, по указанию бывшего главы осуществило за собственный счет предприятие "Ремавтодор" Советского района Минска".

*"В ходе проводимых оперативно-розыскных мероприятий оперативники БЭП установили, что чиновник встал на путь фальсификаций, еще работая гендиректором ОАО "Строммаш",* — говорит Посметьева. — *На протяжении 2011—2012 годов он неоднократно завышал объемы производства продукции ОАО и вносил ложные сведения в государственную статистическую отчетность. С целью создания видимости благополучной работы и выполнения показателей прогноза социально-экономического развития он неоднократно давал указания подчиненным составлять фиктивные документы на оприходование готовой продукции на склад, а также на ее отпуск в адрес предприятий-покупателей с завышенными объемами производства на общую сумму более 570 млн рублей. В результате его умышленных действий ОАО необоснованно уплачено НДС от реализации продукции, чем причинен ущерб обществу в размере более 55 млн рублей".*

Сейчас проводится дальнейшее расследование дела. За злоупотребление полномочиями Пасевину грозит от 3 до 10 лет лишения свободы с конфискацией имущества.

**Вера ВИР.**

ПАМЯЦЬ

# Мілавіца над Гутавам

Гутава — гэта вёска ў Драгічынскім раёне, а Мілавіца, як вядома, — зорка Венера, якая свеціць усім, хто жыве высокімі парываннямі, чыё сэрца адкрыта светламу каханню і любові да ўсяго дарагога, прыгожага.

Пад гэтай зоркай нарадзіўся і складаў свае паэтычныя радкі наш таленавіты зямляк **Мікола Федзюковіч**, які рана пайшоў з жыцця, але якога помняць і любяць не толькі на ягонай малой радзіме. Аб гэтым пераканаўча сведчыў Дзень памяці Міколы, калі на пляцоўцы ля Гутаўскай школы сабраліся вучні, педагогі, вясковыя жыхары і госці з Брэста, Мінска, іншых мясцін.

Паэту зараз споўнілася б 70 гадоў, а жыццё яго было нядоўгім. Не паспеў ён выказацца напоўніцу ў мастацкім слове, набыць гучнае літаратурнае імя. Аднак вершы так бяруць за жывое, вярэдзяць душу, здаецца аўтар наўпрост у гэты міг гаворыць з табой аб самым запаветным, хвалюючым. Такімі былі і зборнік Міколы Федзюковіча "Мілавіца над Гутавам", і іншыя кнігі, якія я берагу праз гады і гады. І не адзін я. Распавядаючы на сустрэчы пра жыццёвы шлях земляка, многія з выступоўцаў чыталі напамяць яго вершы. І маглі чытаць, падобна, яшчэ і яшчэ, бо ў іх — жывая праўда жыцця, пяшчота да роднай зямлі, да вяскоўцаў, сярод якіх ён рос, сталеў душой, гадаваў свой дар.

Яшчэ ў першыя дні вайны Міколка страціў бацьку, маці адна ставіла на ногі сваіх хлопчыкаў — яго і старэйшага Вячаслава. На руках малодшага, ужо ў ягонай кватэры ў Мінску, без пары адышла яна з падарваным перажытымі пакутамі сэрцам. Тое, што вынесла на сваіх плячах старэйшае пакаленне дзеля таго, каб жылі мы з вамі і квітнеў родны край, поўніла многія вершы Міколы і знаходзіла водгук у людскіх сэрцах.

Яшчэ ў школьныя гады ён публікаваў свае вершы ў раённай газеце, а з цягам часу яны выходзілі на ўсё больш шырокі прасцяг, сталі нярэдка з'яўляцца ў рэспубліканскім друку, і гэта надзвычай радавала ўсіх, хто яго ведаў ці ўпершыню разгортваў Федзюковічавы старонкі.

Цёплыя, пранікнёныя словы пра колішняга вучня прысвяцілі ягонай памяці дырэктар Гутаўскай школы Наталля Іванаўна Сялюк, былы настаўнік Васіль Паўлавіч Гук, сябра Міколы Яўген Абрамовіч. Паэт Уладзімір Сітуха чытаў свае вершы і юначыя творы земляка, якія яшчэ з даўняй пары ўрэзаліся ў памяць. Паэт Мікола Панасюк падзяліўся сваімі ўражаннямі аб сустрэчах з Міколам... А працягам падзеі стаў канцэрт, дзе гучалі беларускія песні і, канечне ж, напісаныя Міколам Федзюковічам паэтычныя прызнанні ў любові да бацькоўскай зямлі.

Усе, хто быў удзельнікам гэтай творчай імпрэзы, радаваліся, што памяць аб годных людзях, якіх дала Беларусі палеская вёска, жыве і доўга будзе жыць. І гаравалі, што так рана пакінуў нас таленавіты паэт Федзюковіч, а мог бы яшчэ столькі зрабіць для айчыннай літаратуры і ўзвышэння нашых душ...

**Яўген АБРАМОВІЧ,**
**жыхар Драгічынскага раёна.**

РЭХА

# *Што, на трактарным заводзе працуюць рабы?*

На мінулым тыдні "Народная Воля" правяла апытанне ля прахадной Мінскага трактарнага завода. Я звярнуў увагу не толькі на тое, колькі людзей задаволены сваёй зарплатай, а колькі не задаволены. Мяне больш здзівіў іншы факт: з 38 чалавек толькі двое пагадзіліся назваць свае прозвішчы, з іх толькі адзін — сфатаграфавацца для газеты.

Прабачце, але ўсё гэта патыхае не 37-м годам, а нечым больш страшэнным. Людзі так напалоханы, што баяцца слова сказаць, публічна заявіць пра сябе. А хто ж будзе адстойваць іх правы? Так і хочацца сказаць: на Мінскім трактарным заводзе працуюць не свабодныя грамадзяне, а рабы, якія ведаюць адно — ад званка да званка стаяць ля станкоў, атрымліваючы за гэта неадэкватную зарплату.

Пакуль многімі работнікамі трактарнага завода, як, дарэчы, і іншых прадпрыемстваў-гігантаў, будзе кіраваць псіхалогія рабоў, да таго часу яны не будуць мець нармальных заробкаў. Права на высокі дабрабыт маюць свабодныя людзі, тыя, якіх ніякая ўлада не можа запалохаць, а людзі з рабскай душой могуць разлічваць толькі на мізэрныя падачкі.

**Сцяпан КАРАЛЬЧУК,**
**чалавек дэмакратычных поглядаў.**

ПЕРСОНА

# Она любила в жизни только раз...



С этим замечательным тренером и замечательной женщиной я знаком давно. Заслуженный тренер СССР и заслуженный деятель физической культуры Беларуси **Лариса Бокун** отдала белорусскому фехтованию много лет своей жизни. Полвека. Наш выдающийся фехтовальщик Александр Романьков как-то назвал Ларису Петровну матерью фехтования. Да, для олимпийских чемпионок **Елены Беловой и Татьяны Самусенко** она действительно стала второй матерью.



Лариса Петровна порядочный, трудолюбивый и целеустремленный человек, хороший психолог, как говорят в таких случаях, тренер от Бога.

Она и сама многие годы успешно выступала за родное "Динамо". В те годы фехтование в нашей стране было на высоте, а что мы имеем сегодня?.. Но сейчас я хочу рассказать о ней как о женщине — матери троих детей. Ума не приложу, как она все успевала при своей занятости, и это при том, что ее супруг **Герман Матвеевич Бокун,** тоже выдающийся тренер, дома бывал несколько дней в месяц! Она взвалила на свои женские плечи и всех спортсменов, и троих детей. Лариса Петровна из тех женщин, которые умеют любить, причем любить только в чистом виде. Она умеет уважать, имеет мудрость уступать и прощать.

Ее супруг слыл человеком жестким, горячим, но она умела улавливать его настроение и желания. Недавно мы, как мне показалось, душевно побеседовали о фехтовании, о родном "Динамо". В конце нашей беседы я, с ее разрешения, коснулся ее личной жизни и спросил: *"Лариса Петровна, говорили, что у вашего мужа была такая манера — любить многих женщин..."* Она немного задумалась и сказала: *"Говорю вам истинную правду: я любила в жизни только раз и только его. И только его смерть разлучила нас..."*

В феврале следующего года Ларисе Бокун исполнится 88 лет.

Живите долго, Лариса Петровна!

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран спорта,**
**заслуженный тренер Беларуси.**

ДИСКУССИЯ

# *В яблоках всегда срезаю кожуру!*

В одном из номеров "Народная Воля" спросила, готовы ли белорусы платить больше, покупая экологически чистые продукты. Лично я не готова переплачивать за продукты без химии.

Во-первых, пенсии не хватит.

Во-вторых, зачем? На рынке всегда можно найти частника, который продает хорошие овощи и фрукты. В шикарных супермаркетах морковь и свекла бывают такие горькие от нитратов, есть невозможно, хотя внешне выглядят очень ярко.

Столько написано о польских яблоках, что я всегда срезаю кожуру!

Колбасные изделия покупаю только в магазине (за исключением Комаровского рынка). На мой взгляд, это надежно. Обращаю внимание на цену, а не на состав. Гродно, Береза, Слоним — колбасы из этих городов очень хорошие.

А вот насчет хлеба даже не знаю, чистый он или нет? Пшеницу и рожь удобряют. Вижу это, когда на дачу еду...

**Валентина МЕДВЕДЕВА,**
**пенсионерка,**
**минчанка.**



ПАД ПРЫЦЭЛАМ

# Асцярожна, вас слухаюць!





*Амаль усе прадстаўнікі беларускай апазіцыі ўпэўнены, што іх тэлефоны стаяць на праслухоўцы, а электронная перапіска рэгулярна адсочваецца спецслужбамі.*

*Напрыклад, жонка аднаго апазіцыйнага актывіста распавядала, што першы час пасля арышту мужа дома ўводзіла пароль на ноўтбуку, з галавой схаваўшыся пад пледам. Потым асвоіла розныя шыфравальныя праграмы, прайшла не адны курсы па камп'ютарнай і асабістай бяспецы, у тым ліку і ў замежных спецыялістаў.*

*Зрэшты, засцерагаюцца ўмяшання спецслужбаў у асабістае жыццё не толькі тыя, хто так ці інакш звязаны з палітыкай. Нават чытачы "Народнай Волі", якія прыходзяць у рэдакцыю з нейкай дробязнай праблемай, раптам рэзка пераходзяць на шэпт, неспакойна азіраючыся па баках: "У вас жа, напэўна, тут жучкі стаяць!" Прычым пачалася гэтая фобія задоўга да публічных прызнанняў экс-агента ЦРУ Эдварда Сноўдэна аб тым, што спецслужбы маніторацць усіх і ўся.*

*Некаторыя падчас нейкіх важных сустрэч просяць не толькі выключыць тэлефон, але і дастаць з яго акумулятар. А потым яшчэ і распіхаць гэтыя дэталькі як мага далей адна ад адной.*

***Што кажуць з гэтай нагоды спецыялісты па інфармацыйнай і камп'ютарнай бяспецы?***

***Як зразумець, слухаюць твой тэлефон ці не?***

***Калі так, то як надзейна падстрахавацца ад чужых вачэй і вушэй?***

***І наогул, ці варта жыць з аглядкай на спецслужбы?***

## Сяргей Вазняк не балбоча лішняга



*Адзін з кіраўнікоў кампаніі "Гавары праўду!" па мабільным тэлефоне часцей за ўсё гаворыць пра футбол і жанчын.*

— Я вельмі даўно лічыў, што мяне слухаюць, а калі ў 2010 годзе пасля прэзідэнцкіх выбараў трапіў у СІЗА КДБ, убачыў аж цэлы том з расшыфроўкай маіх тэлефонных размоў, — *успамінае Сяргей Вітальевіч.* — На гэтую праслухоўку, дарэчы, была санкцыя пракурора. Але я думаю, што, хутчэй за ўсё, слухалі і да гэтага.

Калі прачытаў раздрукоўкі, то нават заганарыўся: казаў не пра палітыку, а пра футбол, гарэлку і жанчын. Ніякіх дзелавых гутарак наогул не вёў! І, дарэчы, толькі два разы ўжыў нецэнзурную лексіку...

На мой погляд, спосаб засцярогі ад праслухоўкі толькі адзін: не балбатаць лішняга. І мы з калегамі нават зараз імкнёмся не браць тэлефоны на перамовы або нарады — лепш пакінуць іх у машыне або кафэ. Хоць гэта таксама не можа гарантаваць 100-працэнтную бяспеку: на вуліцы можа стаяць непрыкметнае аўто, з якога цябе могуць і пісаць, і здымаць. І, напэўна, калі спецслужбы зоймуцца табой сур'ёзна, то ніякага выратавання ад гэтага ўжо няма...

## Таццяна Равяка мае бонусы з праслухоўкі

*Прэзідэнт Беларускага дома правоў чалавека, вядомая праваабаронца адзначае цікавы факт: нават калі яна мае вялікую запазычанасць на мабільным тэлефоне, яго ніколі не адключаюць.*

— Я не кажу па тэлефоне нічога лішняга, тым больш па пытаннях, звязаных з прафесійнай дзейнасцю, — *тлумачыць Таццяна.* — Не ведаю дакладна, але не выключаю, што мой нумар сапраўды праслухоўваецца. Але гэта дае пэўныя бонусы. Напрыклад, калі бываюць вельмі вялікія запазычанасці, то мне тэлефон усё роўна не адключаюць.



Я разумею, што несанкцыянаванае праслухоўванне не можа быць выкарыстана супраць мяне ў судзе, але тым не менш лепш засцерагчыся. Бо запіс тэлефонных размоў могуць скарыстаць нейкім іншым чынам, таму я разумна бяспечна карыстаюся сродкамі сувязі, як кажуць, без асаблівага фанатызму.

Што тычыцца камп'ютара, то працую з рознымі спецыяльнымі праграмамі, каб зрабіць перапіску больш бяспечнай.

## Анатоль Лябедзька верыць у татальны кантроль



*Лідар АГП на важныя сустрэчы таксама з'яўляецца без якіх-небудзь электронных носьбітаў.*



— Можна, вядома, наогул не перастрахоўвацца, але, ведаючы нашу трошкі звар'яцелую дзяржаву, часам даводзіцца гэта рабіць, — *разважае Анатоль Уладзіміравіч.* — Таму што магчымы любыя правакацыі і інтэрпрэтацыі. Напрыклад, гады 4 таму я атрымаў аўтарытэтнае папярэджанне аб тым, што да маёй электроннай скрыні на tut.by спецслужбы маюць адкрыты доступ...

Мне здаецца, што сёння ёсць група людзей, над якімі вядзецца татальны кантроль па ўсіх напрамках...

## Міхаіл Пашкевіч яўкі і паролі выкладвае ў "Фэйсбук"



*Каардынатар кампаніі "За альтэрнатыўную грамадзянскую службу" гаворыць, што некаторыя апазіцыйныя дзеячы шыфруюцца на перамовах, а затым у грамадскім транспарце гучна і адкрыта абмяркоўваюць нават фінансавыя пытанні.*

— Як кажуць, сцеражонага Бог сцеражэ, — *адказвае Міхаіл на пытанне аб магчымай праслухоўцы.* — Зараз часам працэй наогул без тэлефона абыходзіцца. Ну а ў цэлым я нічога такога звышсакрэтнага не абмяркоўваю. І ўсё, пра што думаю і з кім сустракаюся, адкрыта пішу на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку". На мой погляд, адкрытасць — самая лепшая зброя. З іншага боку, некаторыя палітыкі выключаюць тэлефоны на важных сустрэчах, а потым у грамадскім транспарце гучна і спакойна абмяркоўваюць свае справы, у тым ліку і фінансавыя.

Ведаю, што некаторыя, баючыся праслухоўкі, дастаюць сім-карты з тэлефона, але на гэты конт ёсць добры анекдот.

***— Добры дзень, вам тэлефануюць з КДБ...***

***— Я ўжо зразумеў, вы дазваніліся на тэлефон, з якога толькі што дастаў батарэю.***

Мне здаецца, трэба быць гатовым да таго, што цябе слухаюць. Напэўна, кожнаму чалавеку ў глыбіні душы ёсць чаго саромецца, і не хацелася б, каб нейкія рэчы сталі прадметам усеагульнага здабытку. Аднак усе мы — жывыя людзі, а не іконы высокіх маральных паводзін. Я, напрыклад, малады-нежанаты, і разумею, што пры жаданні спецслужбы могуць накапаць кучу фактаў, якія могуць мяне дыскрэдытаваць... Але калі ўвесь час шыфравацца і азірацца, можна наогул забыць, навошта ты прыйшоў у апазіцыю. І калі баішся спецслужбаў, лепш сядзець дзе-небудзь на хутары без тэлефона і інтэрнэту...

## Алег Гулак раіць не ператварацца ў параноікаў

*Старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта лічыць, што меркаваныя маштабы праслухоўвання моцна перабольшаны.*

— Людзі часта баяцца таго, чаго не трэба баяцца, — *выказвае свае думкі Алег.* — Сёння многія лічаць, што нейкія рэчы агучваць проста небяспечна. У нармальным грамадстве страху за тое, што ты сказаў нешта не тое, павінна быць значна менш. Таму я раіў бы менш баяцца. На самай справе ўсё можна абмяркоўваць, нават калі слухаюць.

Ёсць такая прымаўка: калі ў цябе параноя, гэта не значыць, што за табой не сочаць...

Ні разу не чуў, каб пракуратура або іншыя кампетэнтныя органы, якія займаюцца бяспекай і забеспячэннем парадку, спрабавалі пераканаць грамадзян, што іх не слухаюць. У мяне такое ўражанне, што спецслужбам нават падабаецца сітуацыя, калі ўсе шугаюцца і думаюць, што яны пад каўпаком.

Можна зрабіць агаворку: маўляў, аб'ектыўна немагчыма слухаць усіх. На мой погляд, пры цяперашняй тэхніцы праслухаць можна, а вось прааналізаваць — дакладна не. Таму меркаваныя маштабы праслухоўкі моцна перабольшаны.



Калі чалавек баіцца, што стаў аб'ектам пільнай увагі спецслужбаў, але пры гэтым не робіць нічога злачыннага, я парэкамендаваў бы карыстацца разумнымі спосабамі засцярогі ад незаконнага зняцця інфармацыі. Гэта і электронныя праграмы, і праграмы перасылкі пошты, і як мінімум проста не казаць лішняга па тэлефоне. Але тут ёсць і іншая крайнасць. Напрыклад, калі спецслужбы раптам зафіксуюць патокі шыфраванай інфармацыі, якая зыходзіць ад нейкага чалавека, не выключана, што іх прафесійная стараннасць толькі ўзмоцніцца. Так што гэтую палку таксама перагінаць не варта. І самае галоўнае — не падпарадкоўваць усё жыццё інтарэсам шыфравання і на самай справе не стаць параноікам...

Што тычыцца мяне, то па некаторых ускосных фактах можна сказаць, што спецслужбы выказваюць цікавасць да маёй персоны. На жаль, у нас не зусім працуе норма закона аб аператыўна-вышуковай дзейнасці, якая дазваляе знаёміцца з матэрыяламі такой дзейнасці пасля яе заканчэння. Пакуль не чуў, каб каму-небудзь гэта ўдалося, але спрабаваць трэба. Каб прадстаўнікі спецслужбаў не расслабляліся і памяталі: усе павінны дзейнічаць у рамках закона.

КАМПЕТЭНТНА

## Аляксей ЧАРНЯЕЎ, IT-спецыяліст, эксперт па камп'ютарнай і інфармацыйнай бяспецы: «Класці мабільнік у халадзільнік зусім не абавязкова...»

— У Беларусі прадугледжаны комплекс апаратна-тэхнічных сродкаў, якія дазваляюць спецслужбам аператыўна атрымліваць інфармацыю пра любога чалавека ад любых правайдараў паслуг электрасувязі — і мабільных апаратараў, і правайдараў інтэрнэту, — *гаворыць Аляксей, якога з лекцыямі па асабістай і камп'ютарнай бяспецы запрашаюць у розныя краіны свету.* —Тэарэтычна ёсць пэўны рэгламент выкарыстання гэтых сродкаў, але як ён выконваецца — невядома, у нашай дзяржаве ў гэтым сэнсе ўсё вельмі непразрыста. Таму тэарэтычная магчымасць атрымліваць інфармацыю, праслухоўваць тэлефоны, адсочваць трафік ёсць практычна ў дачыненні да кожнага грамадзяніна, які карыстаецца сродкамі электрасувязі.



Не веру, што слухаюць усіх і кожнага, бо далёка не кожны чалавек цікавы для спецслужбаў. Але, напрыклад, шараговыя актывісты невялікіх арганізацый затрымліваліся прэвентыўна напярэдадні нейкіх акцый, бо нешта абмяркоўвалі праз тэлефон. І ў некаторых справах фігуравала інфармацыя пра перахоп электроннай пошты. Нельга, канешне, казаць, што гэта прымяняецца ў дачыненні да кожнага, але тое, што выкарыстоўваецца шырока, у тым ліку і супраць палітычных апанентаў, — мне падаецца, што гэта практычна даказана.

Ёсць шмат легендаў наконт таго, як дазнацца, што твой тэлефон слухаюць. Але насамрэч усё гэта толькі легенды. Бо тыя, хто слухае, не зацікаўлены ў тым, каб вы пра гэта ведалі. Таму пракалаў не дапускаюць. Шумы ці розныя пстрычкі, незразумелыя гукі ў тэлефоне — гэта не прыкмета таго, што тэлефон на праслухоўцы. Насамрэч інфармацыя здымаецца на ўзроўні аператара, і ў тэхналагічным сэнсе, калі апісваць працэс прымітыўна, гэта практычна тое самае, што капіраванне файла з адной папкі ў другую. І адбываецца гэта незаўважна.

Некаторыя людзі перад важнымі размовамі разбіраюць тэлефон на кавалкі. Але не зусім праўда і тое, што любы тэлефон па сваёй базавай канфігурацыі можа быць выкарыстаны для таго, каб чалавека падслухваць. Проста ёсць шмат спосабаў гэты тэлефон мадыфікаваць і потым сапраўды такім чынам выкарыстоўваць. Асабліва востра, дарэчы, гэта пытанне пачынае стаяць у цяперашні час, калі людзі ўсё актыўней пачалі карыстацца смартфонамі, якія, па сутнасці, з'яўляюцца маленькімі камп'ютарамі. І ўсе напасці, якія здараюцца з камп'ютарамі, могуць быць і ў тэлефоне. І калі чалавек не ўпэўнены, што ў яго там усё чыста, лагічна перад важнымі перамовамі пакінуць тэлефон у баку.

*Замежныя газеты пісалі пра тое, што экс-агент ЦРУ Эдвард Сноўдэн раіў сваім суразмоўцам класці мабільнік у... маразілку. Некаторыя шчыра смяяліся з гэтай прапановы. Аляксей Чарняеў тлумачыць, на чым базіруецца рэкамендацыя Сноўдэна.*

— У прынцыпе, сэнс гэтай ідэі ў тым, каб закрыць свой апарат ад магчымасці перадаваць радыёхвалі, для чаго рэкамендуецца класці яго ў любую металічную скрыню, — гаворыць Чарняеў. — Насамрэч неабавязкова гэта рабіць менавіта такім чынам, бо ў тэлефоннага мікрафона таксама ёсць пэўныя абмежаванні. Напрыклад, вас нельга праслухаць на адлегласці 500 метраў ці праз некалькі сцен. І ў прынцыпе, калі тэлефон ляжыць у іншым пакоі, а вы знаходзіцеся ў кухні і не крычыце, то наўрад ці вас праз яго праслухаюць. Таму класці мабільнік у халадзільнік зусім не абавязкова...

**Марына КОКТЫШ.**

КОНКУРС

## За слоган для Нацбанка дают смартфон

*Национальный банк Республики Беларусь объявляет открытый конкурс на разработку логотипа и слогана информационной кампании по повышению финансовой грамотности населения.*

Как сообщает Управление информации и общественных связей Нацбанка, в конкурсе может принять участие любой желающий, прислав свою работу ***до 20 сентября*** на электронный адрес: email@nbrb.by. Рабочая группа выберет лучшие логотип и слоган, которые в дальнейшем будут использоваться во всех информационных кампаниях Нацбанка.

*"Логотип и слоган должны вызывать ассоциации с финансовым обучением, нести информацию о том, что миссия повышения финансовой грамотности важна и предназначена для широкого круга граждан,* — говорят в Нацбанке. — *Основные требования: оригинальность, запоминаемость, выразительность, лаконичность. К работе должны прилагаться краткое пояснение идеи, а также сведения об ее авторе (фамилия, имя, отчество, возраст, род занятий, контактный телефон)".*

Победителя конкурса ждет приз — современный смартфон.

**Алина ВЕТРОВА.**

ЧУЛІ?

## У Беларусі з'явіцца таксі-матацыкл

*У Гродне ў якасці эксперымента запрацуе першае мотатаксі.*

Парк новай службы будзе складацца з 10 класічных матацыклаў Suzuki, Kawasaki, Harley-Davidson і Honda. Кіраваць імі будуць члены мотаклуба "Насарогі".

Пасажыры мотатаксі ў паездку атрымаюць шлем, куртку і пальчаткі. Выбар астатняга адзення — за кліентам. Невялікую ручную паклажу можна размясціць у нішы пад сядзеннем.

"*Матацыклы, якія на сённяшні дзень будуць выкарыстоўвацца як таксі, у сярэднім каштуюць каля 20.000 долараў кожны, а расход паліва ў іх часам і больш, чым у машыны, пры гэтым абслугоўванне і запчасткі нашмат даражэй,* — паведамляе сайт "Блог Гродна". — *Вадзіць матацыкл таксама складаней і больш небяспечна, зыходзячы з гэтага і кошт адпаведна большы, чым у звычайным таксі. Першапачаткова плануецца пагадзінная аплата без уліку кіламетражу — 80 тысяч рублёў за 15-хвілінную арэнду. Кожная наступная хвіліна — 4 тысячы. Дарэчы, нават пры сур'ёзных пробках мотатаксі здольна перасекчы ўвесь Гродна за 15 хвілін. І гэты фактар хутчэй будзе актуальны менавіта для кліентаў, якія спяшаюцца і для якіх аўтамабіль у такія гадзіны не дазваляе сэканоміць час. Кошт папярэдні, але будзе карэкціравацца па ходу працы".*

Нягледзячы на тое, што мотатаксі існуе ў многіх краінах свету, а ў некаторых яго кутках і зусім з'яўляецца асноўным відам прыватнага возніцтва, у Беларусі таксісты на матацыклах з'явіліся ўпершыню. Як распавёў дырэктар службы **Сяргей Бертэль,** мотатаксі наўрад ці зможа замяніць звычайныя аўтамабілі, аднак жадаючыя развеяцца і атрымаць новыя адчуванні па заслугах змогуць ацаніць новую паслугу.

*"Асаблівага прыбытку мы ад гэтай паслугі не чакаем, збольшага гэта прапаганда байкерскага руху, магчымасць для простых людзей, неабыякавых да матацыклаў, пракаціцца з байкерам, адчуць атмасферу свабоды і драйву!"* — гаворыць дырэктар службы таксі.



ГИД ПО МАГАЗИНАМ

# Как скидки оставили без штанов

*Корреспондент "Народной Воли" продолжает экспериментировать со скидками в столичных магазинах. На этот раз нужно было проверить, насколько выгодно покупать одежду по сниженным ценам.*

### Сверхзадача

Неделю назад моей целью было найти на скидках продуктовый набор для поездки на дачу. С большего можно считать ее достигнутой. Не удалось найти только молоко по сниженным ценам.

На этот раз задача — найти уцененную одежду, чтобы пополнить дачный гардероб. В планах был достаточно большой комплект — брюки или бриджи, возможно, легкое платье, футболка и кофта. Отличным дополнением были бы удобные тапочки или что-нибудь в этом духе. Перед отправлением нужно учесть предыдущий опыт. Некоторые читатели справедливо заметили, что незапланированные покупки, которые в прошлый раз отгрызли изрядную долю выгоды от скидок, делать никто не заставлял. Так что на этот раз постараюсь не только не покупать ничего ненужного, но и вообще свести траты к минимуму.

### ЦУМ

Отдел женской одежды и трикотажа в этом магазине очень большой и удобный — все рядом. И информация о скидках на самом видном месте: возле кассы сразу же попалась вешалка с уцененными трикотажными изделиями. То, что нужно, — удобные кофты с длинным и средним рукавом. Цена снижена с 336.000 до 226.800. Еще лучшее предложение от фирмы "Kis" — цены на некоторые изделия упала на 50%. К сожалению, беда с размерами. Народ проявляет живой интерес к скидкам, так что самых ходовых размеров нет. Некоторые сообразительные родители предпочитают искать на таких распродажах одежду для детей-школьников. Форму во взрослом отделе, конечно, не подберешь, но вот кофты и толстовки идут на ура.

На стенде с верхней одеждой предложение — закачаешься. Например, цена на куртку-плащ упала с 1.048.500 до 628.800. Вот только самый маленький размер 46...

В ЦУМе вообще очень много скидок на летний ассортимент женской и мужской одежды. Так, например, летнее трикотажное платье с коралловыми цветами досталось мне не за 184.440, а за 147.500. Здесь же беру футболку за 84.400 (первоначально стоила 134.400). Стоит быть внимательной — не на всех моделях указан размер скидки. Иногда на изделии вообще нет заветного ярлычка. Присмотритесь, иногда о падении цен сигнализирует большая вывеска прямо над вешалкой.

Неплохо было бы взять и спортивный костюм, ведь они редко бывают на скидках. Но на вешалке остался только один экземпляр от "Купалінкі", цена на который упала с 438 до 350 тысяч. Но мне не нравится ни бледно-сиреневый цвет, ни махровая ткань. Оплачиваю покупки и двигаюсь дальше.

Кстати, отнимать от профита здесь ничего не придется. Возле ЦУМа я была по делам, так что специально на проезд не тратилась.

Итого мы имеем:

*легкое летнее платье — 147.900 рублей,*

*футболка — 84.400 рублей.*

### ГУМ

В одном из старейших и известнейших магазинов Минска даже в будний день полно покупателей. После реконструкции торговых площадей гулять здесь еще интереснее. Вот и в отделе дамского трикотажа многолюдно. Многие, как и я, ищут скидки, которых на удивление немного. Все, что удалось найти, — милое полосатое платье от отечественного производителя, цена на которе упала на 50 тысяч (с 252.000 до 205.000).

Большие надежды возлагала на здешние полки с брюками. Но тщетно — ничего приемлемого найти не удалось. В обувном отделе тоже не везет, хотя симпатичных моделей предостаточно.

Интересуюсь у продавщицы, куда подевались все выгодные предложения, вон ведь в отделе бытовой техники акция на акции! Оказалось, просто зашла в неудачное время. 25 июля в магазине планируют провести масштабный "Щедрый день в ГУМе", когда все товары получат скидку в 15%. Идея хороша, но вещи мне нужны сегодня, так что из магазина ухожу ни с чем. Вычитать тоже ничего не приходится — и на этот раз мне не пришлось специально тратиться на общественный транспорт.

### "Беларусь"

Для экскурсии по универмагу выделяю часть выходного дня. Как оказалось, скидок на трикотаж здесь довольно много. Сразу приглянулась кофта с кокетливым бантиком за 119.000. Первоначальная ее стоимость — 158.750 рублей. Есть скидки и на другие трикотажные вещи. Цены падают — со 178.200 до 126.000, с 286.000 до 205.000 и так далее.

Покупательницы очень активно примеряют и прикидывают. Некоторым настолько понравились скидки, что берут сразу и для себя, и для подруги, и для родственницы. Я же продолжаю безуспешную экспедицию за брюками. Мне не везет — цена снижена только на цветастые лосины. Но уж лучше походить в старых джинсах, чем в таких откровенных штанишках.

Достойная скидка на брюки встретилась только однажды — большая акция касалась всех вещей изо льна. Но это совсем не то, что мне нужно.

Удача улыбнулась в отделе женской обуви. Отличные легкие городские кроссовки уценены с 302.150 до 233.650 рублей. Берем!

Поход в "Беларусь" принес много удачных покупок, даже несмотря на то, что из финальной суммы скидки придется вычесть 4000 рублей на транспортные расходы.

Домой уношу:

*кофту — 126.000 рублей,*

*кроссовки — 233.650 рублей.*

### Вывод

Покупать одежду на скидках действительно выгодно. Иногда даже не нужно ехать за границу, чтобы найти хорошую вещь по доступной цене. Правда, скидки у нас случаются куда реже, чем в той же Литве. Да и не все товары можно найти. Например, я так и осталась без брюк.

Зато за кофту, платье, футболку и кроссовки я заплатила **587.950** рублей. Общая экономия с вычетом 4000 рублей на транспорт составила **207.600** рублей.

**Мария МАЛЕВИЧ.**
**Диаграмма: Сергей ГРАБОВСКИЙ.**



